**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 38 (859) 22 верасня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



На фестывалі "Жураўлі і Журавіны Мёрскага краю".

Фота Ул. Скрабатуна.



ISSN 2077-8023



**Глыбоцкі раён**

# Чарговая рэарганізацыя

■ **Станіслаў Раманчук.**

**Розныя меры і падыходы прымяняліся ў Беларусі апошнім часам па аздараўленню АПК, але хранічна стратных гаспадарак меней не стала.**

Сёлета чарговую такую спробу пачалі ажыццяўляць у самай праблемнай Віцебскай вобласці ў адпаведнасці з Прэзідэнцкім указам №320. Персанальна адказваць за выкананне гэтага дакумента будзе глава вобласці Мікалай Шарстнёў, які днямі правёў з зацікаўленымі асобамі ў Глыбокім адпаведную нараду. Дарэчы, на базе мясцовага камбікормавага завода ствараюць адну з чатырох у Прыдзвінні інтэгрыраваных структур. Удзельнікам нарады быў прадстаўлены дырэктар гэтага новага холдынга Сяргей Уклейка. На працягу чатырох наступных гадоў акцыянернаму таварыству “Глыбоцкі камбікормавы завод” прадставілі пэўныя падатковыя паслабленні і растэрміноўкі па выплатах існуючых даўгоў ягоных партнёраў. Завод заключыў дагаворы аб сумеснай вытворчасці са сваімі філіяламі, якімі сталі не толькі 9 гаспадарак раёна і мясцовыя МКК, мясакамбінат, птушкафабрыка, але і партнёры з іншых рэгіёнаў. Так, у адной звязцы з глыбачанамі будуць працаваць вытворчы ўчастак па птушкагадоўлі з Полацка і буйны свінакомплекс ля Камаяў у Пастаўскім раёне. З цягам часу ў гэту новую структуру могуць уключыць і новых членаў з ліку рэнтабельных гаспадарак. Арыентаваліся пры яе стварэнні на замежны вопыт дзейнасці падобных карпарацый, дзе ўмеюць вырабляць шмат прадукцыі з меншымі затратамі. Часу на раскачку ў кожнага філіяла проста няма, а галаўны завод ужо сутыкнуўся з недаборам зерня з-за складаных асаблівасцяў сёлетняга сельскагаспадарчага года.

**Віцебская вобласць**

# Якая эканоміка – такі і спорт

■ **Кастусь Александровіч**

**У наш час ва ўсіх сферах дзейнасці ў свеце канкурэнцыя рэзка ўзмацнілася, што апошнім часам адчулі на сабе айчынныя алімпійцы і хакеісты.**

Нават там, дзе беларусы пакуль наперадзе, існуюць сур'ёзныя праблемы, што выявіліся днямі падчас урачыстага прыёму ў Віцебскім аблвыканкаме мясцовых спартсменаў, якія вызначыліся на Алімпіядзе ў Бразіліі. Пасля перамогі там у скачках на батуце віцябляніна Уладзіслава Ганчарова ў абласным цэнтры рэзка павялічыўся набор дзяцей у адпаведную спартшколу. Аднак трэнер чэмпіёна Вольга Власава на той сустрэчы падняла вострае пытанне аб набалелым. Сёння ў Віцебску проста няма належнай залы з неабходнымі 15 метрамі вышыні столі, у якой спартсмены высокага класу маглі б адшліфоўваць на трэніроўках сваё майстэрства. Праўда, кіраўніцтва вобласці адрэагавала імгненна і паабяцала ў самы кароткі тэрмін узвесці на пляцоўцы за Палацам спорту універсальны спорткомплекс, падобны на той, які сёлета з'явіўся ў Оршы. Аднак, праблема існуе значна больш сур'ёзная. Ва ўсёй Віцебшчыне зараз няма ніводнага сучаснай спартыўнай залы для гульнявых відаў спорту. Нават у беларускай сталіцы існуюць падобныя цяжкасці, не кажучы ўжо пра глыбінку, дзе прыметыўнага стадыёна, адпавядаючага крытэрыям XXI стагоддзя, і сучасных спортпляцовак для заняткаў спортам дзяцей і насельніцтва цяжка адшукаць. Пры ўсіх існуючых цяжкасцях неабходна тут мяняць сітуацыю, калі мы жадаем мець здаровае і моцнае маладое пакаленне, выхоўваць моцных беларускіх спартсменаў. Дарэчы, першы такі крок у гэтым накірунку ў абласным цэнтры ўжо зрабілі і адкрылі сучасны спецыялізаваны цэнтр для заняткаў цяжкай атлетыкай.

**Полацкі раён**

# Лес зноў парадаваў

■ **Чэслаў Якубовіч.**

**У гэтым годзе жніво праходзіла ў краіне ў цяжкіх умовах з-за частых і моцных дажджоў.**

Аднак, у лясных масівах сёлета зноў вырас вельмі багаты ўраджай ягад і грыбоў. Большасць раёнаў вобласці маюць шмат лясоў, аднак толькі Полацк знакаміты сваім штогадовым экалагічным святам “У гасцях у Лесуна” і грыбным чэмпіянатам. Як і чакалася, у чарговым такім турніры аматараў ціхага палявання ўдзельнічала амаль 800 грыбнікоў, па чатыры чалавекі ў кожнай камандзе. Практычна, у ім удзельнічаў увесь рэгіён, былі прадстаўлены ўсе працоўныя калектывы і арганізацыі краю. За чатыры гадзіны, якія адводзіліся на незвычайныя спаборніцтвы, яго ўдзельнікі разам сабралі каля пяці тон ядомых грыбоў. Найлепшы невераголны вынік, амаль 226 кг дароў лесу на чатырох паказалі супрацоўнікі мясцовага цэнтра карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі. У яшчэ адной папулярнай намінацыі “грыбны рэкорд” перамагла работніца Полацкага райгарсуда Насця Кабацкая, якая каля аднаго з дрэў знайшла зялёнку, здаровы смачны асенні грыб вагой нават 720 грам. Ганаровае званне “Полацкі грыбнік” сёлета атрымала бібліятэчны работнік Надзея Грыбалёва, якая найхутчэй за ўсіх, усяго за паўгадзіны поўнасцю запоўніла смакавітымі грыбамі дзесяцілітровае вядро. У мясцовым цэнтры турызму, краязнаўства і экскурсій падчас грыбнога чэмпіянату працаваў грыбны універсітэт для ўсіх жадаючых даведацца пра гэтыя дары прыроды. На завяршэнне папулярнага ў палачан экафэста прайшла музычная тэатралізаваная шоу-праграма, ад імя Полацкага Лесуна ўсіх удзельнікаў чэмпіянату па збору грыбоў і гасцей свята накармілі смачным грыбным супам.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 22.09.16 | | | | Пятніца 23.09.16 | | | | Субота 24.09.16 | | | | Нядзеля 25.09.16 | | | | Пан. 26.09. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +8 | +9 | +12 | +7 | +7 | +8 | +11 | +8 | +8 | +8 | +14 | +10 | +9 | +9 | +16 | +10 | +6 | +9 | +14 |
| Ціск | 747 | 746 | 746 | 746 | 745 | 744 | 745 | 746 | 747 | 749 | 750 | 751 | 751 | 753 | 753 | 753 | 752 | 753 | 753 |
| Вецер м/сек | 4 Пн | 3 Пн | 4 Пн-З | 3 Пн-З | 5 Пн-З | 5 Пн-З | 8 Пн-З | 5 З | 5 З | 4 З | 7 З | 4 Пд-З | 2 Пд-З | 1 З | 2 Пн-З | 1 Пн | 1 У | 3 Пд-У | 1 Пн |
| Вільготнасць | 97 | 97 | 67 | 95 | 96 | 97 | 66 | 89 | 94 | 94 | 67 | 99 | 100 | 100 | 63 | 91 | 100 | 100 | 69 |

# Аб самым надзённым

## З КОЖНЫМ ГОДАМ У БЕЛАРУСІ ЎСЁ МЕНЕЙ ЗАСТАЕЦЦА БЯСПЛАТНАЙ АДУКАЦЫІ




■ **Аляксандр Цішкевіч.**

**Такім чынам, сёння беларусы за адукацыю дзяцей плоцяць шмат, пачынаючы ад дзіцячых садзікаў. Прыходзіцца бацькам плаціць і за падручнікі, харчаванне школьнікаў, не кажучы ўжо за фактычна пераважна платныя дыпломы аб вышэйшай адукацыі.**

З прыходам каляндарнай восені ў нашай краіне адначасова пачаўся новы навучальны год, а гэта заўсёды была значная падзея не толькі для школьнікаў, студэнтаў, іх бацькоў, але і для выкладчыкаў розных рангаў, кіраўнікоў устаноў адукацыі ад вясковых да сталічных ВНУ. У адрозненне ад папярэдніх, у гэтым годзе вялікіх змен у гэтай сістэме не было. Праўда, зноў беларускія школьнікі пачалі вучыцца па асобных новых падручніках, па практычна новай кнізе пачаў засвойваць гісторыю для вучняў 6 класа і малодшы сын Прэзідэнта. Разам з бацькам, напярэдадні яны адзначылі свае дні нараджэння, але многія заўважылі, што свайго беларускага калегу ўпершыню “забыўся” павіншаваць расійскі лідар У. Пуцін.

Штогод новы навучальны год у Беларусі пачынаецца на фоне няпростай дэмаграфічнай сітуацыі, у глыбінцы часта няма каго вучыць. Да прыкладу, у пачатку новага стагоддзя, у 2000 годзе ў нас налічвалася больш 1,5 мільёна школьнікаў, а сёлета села за парты ўжо меней мільёна вучняў. Такім чынам, скарачэнне адбылося амаль у паўтара раза, і па гэтай прычыне толькі на Віцебшчыне давялося сёлета закрыць яшчэ 22 школы і 30 рэарганізаваць, перавесці ў базавыя і пачатковыя. Адпаведна адчувальна і практычна на столькі ж зменшылася колькасць навучэнцаў ва ўстановах прафтэхадукацыі, тэхнікумах, каледжах, дзе выпускнікі атрымоўваюць дыпломы аб сярэдне-спецыяльнай адукацыі. У ССНУ сёлета прынялі звыш 37 тысяч навучэнцаў.

На шчасце, па афіцыйных дадзеных, колькасць студэнтаў беларускіх ВНУ вырасла за апошнія 15 гадоў амаль на 60%. Адзіная загвоздка, што на бюджэтную форму навучання залічылі ў гэтым годзе толькі 27 тысяч юнакоў і дзяўчат, вакантными па краіне засталіся 18 месц. А вось звыш 57 тысяч абітурыентаў сталі вучыцца ва ўніверсітэтах і акадэміях за грошы, на сямейны бюджэт іх бацькоў ляжа на працягу некалькі наступных гадоў дадатковая нагрузка. У дадатак не ўсё вырашана і з засяленнем студэнтаў у інтэрнаты, многім прыходзіцца яшчэ плаціць за здымнае жыллё на прыватных кватэрах. У такой ступені казаць аб даступнасці сістэмы далейшай адукацыі для выпускнікоў школ яшчэ пакуль рана.

Па традыцыі пэўныя змены ў характары навучальнага працэсу ўсё ж з'явіліся. У прыватнасці, скарэкціравалі праграмы па вучэбных прадметах для школьнікаў 2-х і 6-х класаў. Для іх з'явіўся абавязковы для вывучэння прадмет “Асновы бяспекі жыццядзейнасці”, старэйшыя вучні павінны ведаць курс мастацтва. Замест адной гадзіны ўвялі дзве працоўнага навучання, а фізіку пачнуць вывучаць з 7-га класа. Для старшакласнікаў 11-х класаў распрацавалі вучэбныя праграмы з улікам базавага і павышанага ўзроўняў навучання. Сёлета таксама давялося на шэраг спецыяльнасцяў у ПТВ прадоўжыць прыём навучэнцаў да 15 верасня, бо не было жадаючых вучыцца.

У нас таксама сталі адкрыта гаварыць аб тым, што задача стаіць перад сістэмай адукацыі не толькі павысіць якасць атрымоўваемых ведаў, але і палепшыць узровень аплаты нялёгкай настаўніцкай працы. У Беларусі стараюцца прытрымлівацца сусветных стандартаў у гэтай сферы і траціць 5% ад ВУП краіны на патрэбы адукацыі. Спецыялісты б'юць трывогу, што ў цяперашніх умовах гэтага недастаткова, паколькі матэрыяльна-тэхнічная база многіх школ састарэла. Велізарныя сродкі ўкладвала дзяржава ў дрэваапрацоўку, цэментныя заводы, у тую ж бяздонную бочку вечна праблемнай сельскай гаспадаркі, у будаўнічую галіну, а на адукацыю расходы ішлі па астаткаваму прынцыпу.

У выніку шмат дзе школы савецкай пабудовы патрабуюць рамонту дахаў, інжынерных сетак, тэрмінова патрэбна замяняць гнілыя аконныя блокі на сучасныя шклопакеты, свяцільнікі на электразберагальныя, а сродкаў на гэта ў мясцовых бюджэтах катастрафічна не хапае. У беларускім урадзе паставілі задачу павысіць настаўнікам зарплату. Але што характэрна, як падкрэсліла віцэ-прэм'ер Н. Качанава, дадатковыя сродкі на гэтыя мэты школы павінны зарабіць ад пазабюджэтнай дзейнасці, аказання імі платных паслуг. На самой справе, нашы настаўнікі зараблялі вясной мала, “гразнымі” вясной выходзіла па 520 новых рублёў, а яшчэ летась іх заробкі былі ў раёне 6 млн. у сярэднім.

Такім чынам, сёння беларусы за адукацыю дзяцей плоцяць шмат, пачынаючы ад дзіцячых садзікаў. Прыходзіцца бацькам плаціць і за падручнікі, харчаванне школьнікаў, не кажучы ўжо за фактычна пераважна платныя дыпломы аб вышэйшай адукацыі. Сітуацыя на месцах няпростая, і таму бацькі школьнікаў скідваюцца, каб адрамантаваць вокны, каб цяплей было ў класе, дзе вучацца іх дзеці. Збіраюць грошы на розныя падарункі школе, патрэбную апаратуру. Любая дапамога школе зараз не лішняя, калі дзяржаве прыходзіцца жыць па сродках, на многім эканоміць. Як бы там ні было, а 1 верасня паўсюдна расчыніліся дзверы школ, а ў Беларусі ўпершыню селі за парты амаль 110 тысяч юных суайчыннікаў. Хай жа для іх, таксама для ўсёй моладзі шлях у краіну ведаў будзе шчаслівым і поўным стваральнай працы на ўроках, лекцыях, практычных занятках!

## Дзень за днём

**Знешні доўг краіны за 7 месяцаў вырас на 847 млн. долараў. У Міністэрстве працы паабяцалі да канца года павялічыць працоўныя пенсіі. Неўзабаве Беларусь можа стаць бязвізавай для грамадзян 80 краін свету. Нацбанк Беларусі вывеў з абароту 90% старых грошай. У ЕАЭС будзе адзіны рынак лякарстваў. Па ўзроўню зарплат Салігорск абагнаў Мінск. У Брэсце ўпершыню запусцілі электронную рэгістрацыю пропуску праз граніцу. БДУ падняўся на 354-е месца ў рэйтынгу лепшых універсітэтаў свету. Усе новыя школьныя падручнікі перавыдадуць да 2020 года. Хакеісты Славеніі ў Мінску зноў не пусцілі беларусаў на Алімпіяду.**

# Важнейшыя навіны свету

**Кітай.** Старшыня Еўрапейскага савета Д. Туск падчас саміта G20 заявіў, што магчымасці ЕС па прыёму новых вымушаных уцекачоў дасягнулі крайняй мяжы.

**Расія.** Прэс-сакратар Пуціна Д. Пяскоў даў зразумець, што Расія не зменіць сваю палітыку ў Сірыі і на Данбасе дзеля вяртання ў G8, як цалкам задавальняе фармат удзелу ў G20.

**Турцыя.** У рамках аперацыі "Шчыт Еўфрата" турэцкая армія накіравала яшчэ адну групу танкаў і цяжкай артылерыі ў глыб тэрыторыі Сірыі, што абвастрыла сітуацыю ў рэгіёне.

**ЗША**. Былы аднакурснік Пуціна ў КДБ Ю. Швец заявіў, што гаспадар Крамля смяртэльна баіцца выбрання Клінтан, яна з ім гуляць не будзе, як Абама, яна зацісне яго і РФ моцна.

**Украіна.** Эксперты Bellinqcat заявілі, што ўручэнне ў Расіі за апошні год 4300 медалёў "За баевые заслуги" пацвярджае ўдзел дзясяткаў тысяч яе ваенных у вайне на Данбасе.

**Узбекістан.** Лепшыя расійскія ўрачы НДІ нейрахірургіі імя Бурдэнка і свету не змаглі выратаваць ад смерці ад кровазліцця ў мозг 78-гадовага прэзідэнта Іслама Карымава.

**Бразілія.** Як і чакалася, Сенат следам за ніжняй палатай парламента адхіліў ад пасады прэзідэнта Дзілму Русеф за махінацыі з дзяржаўным бюджэтам падчас перавыбараў.

**Расія.** Віцэ-прэм'ер урада РФ А. Дварковіч пацвердзіў, што пакуль Беларусь не пагасіць доўг за газ, Расія не будзе павялічваць беларусам пастаўкі сваёй нафты.

**КНДР.** Нягледзячы на моцнае асуджэнне ў свеце і санкцыі, армія краіны зноў запусціла з правінцыі Хванхэ ноччу 3 балістычныя ракеты ў бок Японскага мора.

**Афганістан.** У выніку сутыкнення ў правінцыі Забуль аўтобуса з бензавозам і ўзнікшага пажару загінула 36 чалавек і яшчэ каля 30 атрымалі моцныя апёкі цела.

**Украіна.** Кітайская кампанія China Airspace купіла ва ўкраінцаў усе правы ўласнасці на самы грузападымальны самалёт у свеце "Мрыя" для перавозкі да 250 тон грузаў.

**Польшча.** Міністр унутраных спраў і адміністрацыі М. Блашчак заявіў, што польская граніца закрыта для мігрантаў з Чачні таму, што там цяпер няма ніякай вайны.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка ў Вінніцы запэўніў, што восенню сёлета краіна атрымае новы крэдыт МВФ і таксама бязвізавы рэжым паездак з Еўрасаюзам.

**ЗША.** Пры падтрымцы НАСА Гавайскі ўніверсітэт правёў гадавы эксперымент па сімуляцыі жыцця 6 вучоных на Марсе ў амаль поўнай ізаляцыі ў доме без свежага паветра.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Францыск далучыў да ліку святых маці Тэрэзу, каталіцкую манашку, якая праславілася на ўвесь свет арганізацыяй меддапамогі беднякам.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Петрыкаў.** На мясцовым радовішчы калійных солей ААТ "Беларуськалій" пачаў пракладку другога шахтнага ствала дыяметрам 8 метраў, яго глыбіня дасягне 725 метраў.

**Мінск.** Палітолаг А. Класкоўскі спрагназаваў, што эпоха Лукашэнкі наўрад ці завершыцца рэформамі, далейшая будучыня Беларусі туманная, трывожная і малапрадказальная.

**Астравец.** З-за ўдару металічным балонам на пляцоўцы ўзводзімай АЭС трагічна загінуў 43-гадовы мантажнік трэста "Расспецэнергамантаж", следчыя пачалі праверку інцыдэнта.

**Мінск.** Эканаміст Я. Раманчук пацвердзіў, што за апошніх 1,5 года колькасць занятых у беларускай эканоміцы скарацілася на 157,7 тысяч чалавек, беспрацоўе будзе расці.

**Гомель.** Падчас выбараў з дэкларацый кандыдатаў у дэпутаты стала вядома, што вышэйшыя афіцэры КДБ зарабляюць у месяц у сярэднім ад 24 да 28 млн. старых рублёў.

**Магілёў.** Маладога капітана юстыцыі П. Зініна звольнілі са Следчага камітэта пасля вылучэння кандыдатам у дэпутаты без узгаднення з начальствам.

**Рагачоў.** На Дзень беларускага пісьменства ў раённы цэнтр прыехалі беларусы з 19 краін свету, урачыста адкрылі Дом кнігі імя У. Караткевіча, эстафету свята прыняў Полацк.

**Дзяржынск.** Лідар кампаніі "Гавары праўду" А. Дзмітрыеў заявіў, што ў грамадстве расчараваліся жыццём, беларусаў падманам пераканалі, што яны нічога не вартыя.

**Пінск.** На некалькіх вуліцах горада санітарная служба ўвяла ветэрынарны каранцін пасля з'яўлення там шалёнай лісы, якая задушыла шэраг курыц на панадворках гараджан.

**Гродна.** У службовым кабінеце будынка ўпраўлення абласной ДАІ павесіўся па нявысветленых пакуль прычынах афіцэр міліцыі, намеснік камандзіра ўзвода.

**Мінск.** Намеснік дырэктара міжнароднага кінафестываля "Лістапад" Р. Розум пацвердзіла, што яго бюджэт сфарміраваны толькі на 40%, у 65 спонсараў цяжкасці з фінансамі.

**Мядзель.** Возера Нарач увайшло ў тройку самых папулярных у расіян летам 2016 года месц курортнага адпачынку ў краінах СНД разам з Каспійскім морам і Іссык-Кулем.

**Мінск.** А. Лукашэнка паабяцаў у наступныя 2-3 гады навесці парадак у спорце ў цэлым і беларускім хакеі ў прыватнасці, у якім функцыянеры, напэўна, крыху затлусцелі.

**Маларыта.** Пагранічнікі затрымалі двух жыхароў райцэнтра, якія ноччу нелегальна на аўтамабілях перавезлі праз граніцу з Украінай 44 тушы буйной рагатай жывёлы.

**Мінск.** У скверы на плошчы Свабоды каля ратушы ўрачыста адкрылі помнік славутым землякам кампазітару С. Манюшку і драматургу В. Дуніну-Марцінкевічу.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# З 1 студзеня 2017 года базавую велічыню плануюць павялічыць да 23 рублей



■FINANCE.TUT.BY

**У праекце бюджэту на наступны год запланавана павышэнне базавай велічыні да 23 рублёў з 1 студзеня 2017 года.** Пра гэта FINANCE.TUT.BY заявіла дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Вольга Палітыка.

Такім чынам, базавая, якая цяпер складае 21 рубель, вырасце на 2 рублі (9,5%). Нагадаем, што ў папярэдні раз базавую велічыню павысілі ў пачатку 2016 года. Тады яна вырасла на 30 тысяч недамінаваных рублёў.

Базавая велічыня - гэта эканамічны паказчык, які вызначае абстрактную каштоўнасць пакупніцкай здольнасці грошай, не звязаную з ацэнкай канкрэтных матэрыяльных або нематэрыяльных даброт.

З павелічэннем базавай велічыні вырастуць: адначасовыя дапамогі педагагічным, медыцынскім і фармацэўтычным работнікам, работнікам культуры і мастацтва, спецыялістам сельскай гаспадаркі і ЖКГ, работнікам сістэмы спажыўкааперацыі пры прыбыцці на працу ў раёны, якія падвергліся радыеактыўнаму забрудджванню ў выніку аварыі на ЧАЭС; грашовая дапамога на аздараўленне асобным катэгорыям грамадзян; штомесячныя грашовыя выплаты грамадзянам, якія маюць ганаровае званне «народны»; прэміі і стыпендыі Прэзідэнта Беларусі; матэрыяльная дапамога беспрацоўным; пакрыццё расходаў іншагароднім студэнтам па найму жылля; мінімальныя стаўкі аўтарскага ўзнагароджання; аднаразовае ўзнага–роджанне работнікам арганізацый, якія спускаюцца пад ваду для выканання службовых абавязкаў; іншыя выплаты.

Дарэчы, з ростам базавай павялічваюцца не толькі выплаты, але і штрафы.

## Місія МВФ пачынае працу ў Беларусі

■Кар. БЕЛТА

**Місія МВФ на чале з яе кіраўніком Пітэрам Долманом будзе працаваць у Беларусі з 19 верасня па 1 кастрычніка**.

У прадстаўніцтве патлумачылі, што мэта місіі пакуль не вядомая, пра яе пазней паведаміць Пітэр Долман. У апошні раз місія МВФ наведвала Мінск з 21 па 30 чэрвеня, каб правесці ацэнку бягучай эканамічнай палітыкі і штогадовыя кансультацыі з уладамі па Артыкуле IV. Міжнародны валютны фонд - спецыялізаваная ўстанова ААН са штаб-кватэрай у Вашынгтоне (ЗША). Афіцыйная дата стварэння МВФ - 27 снежня 1945 года. Беларусь з'яўляецца членам МВФ з 1992 года, яе квота на пачатак 2013 г. была роўная 386,4 млн СДР ($ 542100000). Дзейнасць МВФ у Беларусі накіравана на супрацоўніцтва з урадам і Нацыянальным банкам пры падрыхтоўцы праграм эканамічнай палітыкі з акцэнтам на падаткова-бюджэтную і грашова-крэдытную палітыку, абменны курс і гандлёвую палітыку з мэтай дасягнення значнага эканамічнага росту, нізкай інфляцыі і ўстойлівасці плацежнага балансу. Як паведамлялася, Мінск абмяркоўвае магчымасць прыцягнення новага крэдыту МВФ на $3 млрд пад 2,28% тэрмінам на 10 гадоў.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Сянно.** У суботу 24 верасня ў райцэнтры пройдуць абласныя "Дажынкі", з-за капрызаў надвор'я сёлета у вобласці былі велізарныя страты зерня, год стаў вельмі няпросты.

**Глыбокае.** На базе камбікормавага завода і шэрагу гаспадарак раёна глава вобласці М. Шарстнёў правёў нараду па пытанню стварэння інтэграцыйнай структуры АПК.

**Орша.** У гімназіі №1 глава вобласці М. Шарстнёў паведаміў аб планах стварэння ў Прыдзвінні некалькіх суперсучасных школ будучага з найлепшымі педагогамі.

**Талачын.** Спецыялісты і будаўнікі "Віцебскаблгазу" ўвялі ў эксплуатацыю размеркавальныя сеткі для пераводу на прыродны газ аграгарадка Серкавіцы.

**Паставы.** У мікрараёне 6 гарадка ўрачыста адкрылі першы ў раёне дзіцячы двухпавярховы дом сямейнага тыпу, у ім знайшлі прытулак 7 прыёмных дзяцей.

**Віцебск.** Днём на мосце імя Блахіна сутыкнуліся два самазвалы МАЗ, адзін з іх з металаломам перакуліўся, вылілася на дарогу салярка, вадзіцелі не пацярпелі.

**Копысь.** Падчас выязной калегіі Міністэрства лясной гаспадаркі Беларусі ўрачыста адкрылі новы будынак мясцовага лясніцтва, які ўпрыгожыў гарпасёлак.

**Мёры.** Праваслаўны святар з Дзісны Генадзь Каранеўскі праз 15 гадоў нястомнай працы сваімі сіламі аднавіў разбураную сядзібу маёнтак графа Кастравіцкага.

**Докшыцы.** Ля гарпасёлка Бягомль вечарам у выніку лабавога сутыкнення мапеда і фуры загінулі 2 чалавекі, 63-гадовы кіроўца мапеда і яго 44-гадовая пасажырка.

**Полацк.** Пасля рэканструкцыі зноў у цэнтры горада адкрылі абноўлены помнік літары "Ў", у 2017 годзе тут у другі раз пройдзе Дзень беларускага пісьменства.

**Талачын.** Рана раніцай у адной з вёсак раёна з прыкметамі прымусовай смерці знайшлі ў доме трупы 33-гадовага беспрацоўнага і сужыцелькі на год маладзей.

**Браслаў.** Пасля сутыкнення днём на дарозе ля вёскі Урбаны з камбайнам пенсіянер цудам застаўся жывы, разбіў ушчэнт іншамарку, ён будзе судзіцца з вінойнікам ДТЗ – нацпаркам

**Ушачы.** Напярэдадні ацяпляльнага сезона ў вёсцы Бярозава днём загарэўся жылы дом, гаспадар не пацярпеў, але агонь знішчыў дах, пашкодзіў столь, маёмасць і сцены.

**Ваўкалаты.** У мясцовым касцёле прайшоў галоўны фэст года ў гонар св. Роха з выступленнем ансамбля "Раніца" і канцэртам "Вера. Надзея. Любоў".

**Полацк.** Студэнт радыётэхнічнага факультэта мясцовага дзяржуніверсітэта Уладзіслаў Ушакоў уста–навіў сусветны рэкорд па зборы на хуткасць кубіка Рубіка. *Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

■ Уладзімір Скрабатун, *тэкст і фота.*

# Жураўлі і журавіны – адвеку існуюць неразрыўна!

***У Мёрскім і Шаркоўшчынскім раёнах размешчана адно з самых вялікіх балотаў Еўропы – Ельня. Балота Ельню клічуць "лёгкімі" Еўропы. Тут, па дарозе ў вырай, спыняюцца на адпачынак жураўлі. Яны частуюцца журавінамі. А ў Мёрах адбываецца фестываль "Жураўлі і Журавіны Мёрскага краю".***

**З 16 па 18 верасня ў Мёрах прайшоў традыцыйны штогадовы экалагічны фестываль "Жураўлі і Журавіны Мёрскага краю". Чарговы фестываль – ужо пяты па ліку, юбілейны.**

Падобныя мерапрыемствы цяпер прынята называць "падзейным турызмам". Яны адбываюцца хіба што ў кожным раёне нашай краіны. І ўсе ахвотныя, напрыклад, мінчане, якія маюць вольны час і сродкі на вандроўкі, могуць штотыдзень наведваць розныя гарады Беларусі, знаёміцца з яго гісторыяй і культурай. Ды й аўтар гэтых радкоў цягам двух месяцаў наведаў тры фестывалі: Вішнёвы ў Глыбокім, Яблычны Спас у Алашках (Шаркоўшчынскі раён), і, натуральна, "Жураўлі і Журавіны Мёрскага краю". Таму ёсць што параўноўваць.

Можна сказаць, што ўсе яны, незалежна ад месца правядзення, адбываюцца па аднаму сцэнару. Звычайна яны цалкам праводзяцца на беларускай мове, аднак, калі справа даходзіць да ўганаравання лепшых працоўных калектываў, лепшых гаспадароў прыватных сядзібаў, лепшай даяркі, то вядоўцы свята, чамусьці, адразу пераходзяць на рускую мову. Так было нядаўна ў Падсвіллі, так і цяпер у Мёрах. Зрэшты, паўсюль! Дзіўна!

Цвіком усіх падобных фестываляў заўсёды з'яўляецца – прэзентацыя панадворкаў сельскіх саветаў. Кіраўнік раёна са світай (дзесьці, як Глыбокім, і ў прысутнасці высокага госця, напрыклад, старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу) абыходзіць усе панадворкі. Яго (ці іх) там сустракаюць хлебамсоллю, частуюць слодычамі, наліваюць напой у чарачку (у Глыбокім – з вішні, у Мёрах – з журавінаў, у іншых райцэнтрах і гарадах – з яблыкаў, ці суніцаў, а то і чарніцаў), а потым нейкая жвавая кабетка падхоплівае гораданачальніка і цягне яго ў пляс пад акампанемент мясцовага вакальнага гурта. Далей – іншы панадворак. І там, таксама, гасцінна сустракаюць!

Не падумайце, што аўтар убачыў у гэтым нешта негатыўнае. Проста, звважае на тое, што сцэнар паўсюдна аднолькавы. Пры гэтым аўтар, нават, не мае сумневаў, што і ў нашых суседзяў: у Польшчы, ці ў Літве – усё арганізавана аналагічна, толькі з той розніцай, што там – усё прыватнае і прыязджаюць людзі не толькі, каб сябе паказаць, але і скарыстаць шанец па папулярызацыі і продажу прадукцыі сваёй вытворчасці: каўбасы, вяндліны, розныя арыгінальныя напоі, сувеніры, адзенне...

У аўтара даўно склалася меркаванне, што прэзентацыя панадворкаў на падобных мерапрыемствах – гэта ўсяго толькі справаздача перад начальствам. Як толькі начальства дойдзе да апошняга панадворка – першыя ўжо пачынаюць згортвацца і грузіцца. А калі, напрыклад, аўтар, ці яшчэ хто, каму цікава, хоча завітаць у панадворак і азнаёміцца з яго выставай, сфоткаць арыгінальную экспазіцыю, то ўжо, неяк, і не выпадае. Не заўважна было, каб і гаспадары нейкага панадворка ласкава запрашалі прахожых завітаць да сябе. Таму, што раней ім было не да гэтага – бо спачатку яны хуценька "раскладаліся", а потым, на заканчэнне прэзентацыі, гэтак жа хуценька і "складаліся"...

Калі ж глядзець аб'ектыўна і з іншага ракурсу, то падобныя фестывалі выдатны выпадак сельскім жыхарам паказаць культуру і здабыткі свайго краю, прадставіць мясцовую мастацкую самадзейнасць. Бо, які яшчэ зручны момант можа надарыцца, як не маштабны раённы фестываль! У сельскіх жыхароў не такі ўжо і вялікі выбар, ды й не стае заўсёды часу – то сяўба, то жніво на сельгаспрадпрыемстве, а яшчэ, у дадатак, і ўласная гаспадарка.

Двойчы наведваў фестываль "Жураўлі і Журавіны Мёрскага краю" і заўсёды быў у захапленні ад аздобы Перабродскага панадворка. Перабродздзе, дарэчы, адзіная на Беларусі вёска, якая мае свой герб і сцяг! І атрымала іх Перабродздзе не цяпер, у гады незалежнай Беларусі, а ў вельмі даўнія часы. У гады незалежнасці было толькі ізноў пацверджана права Перабродздзя на свой герб і сцяг.

У лісце Жыгімонта Аўгуста ад 22 лютага 1571 года Перабродздзе называецца горадам. Існуе пацверджанне 1792 года аб валоданні Перабродздзем магдэбургскім правам. Паводле мясцовага падання, жыхары Перабродздзя, якое ляжыць паміж азёрамі Абстэрна і Набіста, атрымалі гарадскія правы толькі за тое, што паказалі шлях (броды) праз ваду каралю Рэчы Паспалітай. Кароль тут са сваёй світай не мог даць рады, каб праехаць у патрэбным кірунку, бо куды не торкніся, вакол – адна вада!

Прыкметна тое, што ў Глыбокім Вішнёвы фестываль – з усімі панадворкамі, палаткамі прадпрымальнікаў не толькі з самога Глыбокага, але і з іншых гарадоў Беларусі, у тым ліку і Мінска, выставамі народных майстроў – займае досыць вялікі абсяг вуліцы Леніна – ад скрыжавання з Чырвонаармейскай і да маста праз Беразвіцу. Паўкіламетра! У дадатак яшчэ – сама Цэнтральная плошча. У вёсцы Алашкі, дзе нядаўна адбыўся Яблычны Спас, як не дзіўна, таксама ўражваюць маштабы мерапрыемства – дзве даўгія вясковыя вуліцы запаланёныя палаткамі, атракцыёнамі, панадворкамі, пунктамі грамадскага харчавання.

У Мёрах фестываль адбываецца ў парку на паўвостраве возера, што абмяжоўвае маштабы мерапрыемства, усё досыць кучна і сціснута. Лішняга і разнастайнага не размесціш, толькі ўсё неабходнае. І калі тут пачынаюць смажыць каўбаскі і шашлыкі, то увесь парк на паўвостраве зацягнуты густым дымам.

Затое ёсць у фестываля свая адметная разынка – штогадзіну курсіруюць аўтобусы да недалёкага ад Мёраў Рэспубліканскага ландшафтнага заказніка "Ельня". Бясплатна! Экскурсанты маюць унікальную магчымасць праз бінохлі, альбо праз добрую оптыку сваіх фотаапаратаў, убачыць адну з найбуйнейшых птушак у Еўропе – шэрага жураўля, яго вышыня да 140 см, размах крылаў – больш за 2 метры! Жураўлі начуюць на гэтым балоце, а днём – сілкуюцца рэшткамі ўраджаю на навакольных палях у радыусе 20-30 км ад балота.

Само балота "Ельня" – адно з буйнейшых у Еўропе і займае ў Мёрскім і Шаркоўшчынскім раёне плошчу – 25301 га. Балоту Ельня больш за 9 000 гадоў, на ім – не меней за 100 азёраў.

Дарэчы, на самой Ельні гняздуецца каля 50 сем'яў жураўлёў, аднак, калі адбываецца міграцыя гэтых птушак у вырай, то тут, на балоце Ельня, на адпачынак іх збіраецца да 20 тысячаў (такую лічбу агучылі са сцэны, хаця розныя даведнікі даюць іншую лічбу ў 4-7 тысячаў), у асноўным са Скандынавіі. Фатографы і экскурсанты праз аптычнае назіранне могуць бачыць унікальнае відовішча гэтай пары года – шматлікія статкі жураўлёў, якія, натуральна, ходзяць па амшалых балотах, дзе чырванеюць журавіны. Частуюцца імі. Журавіны і жураўлі – словы сугучныя ў беларускай мове! Такі прыклад – журавіны і жураўлі – ёсць яшчэ толькі ў англійскай – Cranberry (жураўліная ягада) and cranes.

Хоць аўтар гэтых радкоў запланаваў экскурсію да жураўлёў на фестываль наступнага года, аднак, вяртаючыся ў Глыбокае, з дзясятак жураўлёў мы, усё ж, убачылі збоч дарогі на ўзараным калгасным полі.

Дарэчы, які кошт журавінаў быў у Мёрах? Скажу: 3 руб. 30 кап – за кілаграм.



Шэрыя жураўлі сярод журавінаў на балоце Ельня.



Вельмі запамінальнае выступленне дзяўчатаў з Даўгаўпілса – з Цэнтра беларускай культуры, гурт "Пралескі". Яны спявалі цудоўныя беларускія і латышскія песні.



Перабродскі панадворак часцей за ўсіх трапляў у аб'ектывы фатографаў.



Прэзентацыя панадворкаў. Хлеб-соль кіраўніку Мёрскага раёна Ігару Валер'евічу Кузняцову.

# Усе нашы прычыны ў сферы амаральнасці

*“Жизнь всегда умней и убедительней любых выдумок, какими люди из различных побуждений стремятся умножить красоту правды или усилить уродство зла”.*
*Л. Леонов*

*“Назначение человека именно то, чтобы делать добро”.*
*В. Даль*

**Я цвёрды прыхільнік таго, што гаварыць аб любой праблеме, каб усё было зразумела дакладна даць вызначэнне гэтай праблемы.**



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, г. Дзісна*

Маральнасць, па вызначэнню Даля, - гэта правілы, якія вызначаюць паводзіны; духоўныя і душэўныя якасці, якія неабходны чалавеку ў грамадстве, а таксама выкананне гэтых правіл, паводзін. Нораў – характар, сукупнасць душэўных якасцяў, звычаяў, уклад у грамадскае жыццё. Норавы бываюць добрыя і злыя. Маральнасць бывае праведнай і ганебнай. У фарміраванні маральнасці, а яна нам не даецца ад нараджэння, а фарміруецца ў працэсе жыцця, пад уздзеяннем жыццёвых абставін, нельга не ўлічваць такія нашы чалавечыя якасці, як дух – унутраная маральная сіла, як душа – унутраны псіхічны свет чалавека, яго ўсведамленне. Аб высокамаральным чалавеку кажуць: “Адданы душой і целам сваёй справе, сваёй малой радзіме, Айчыне”. Кажуць – мне гэта не па душы.

На жаль, у апошні час адбываецца працэс размывання грамадскага ўсведамлення шляхам укаранення памылковых каштоўнасцяў – жыць толькі для сябе, запасіць багацце любым коштам, насаджэнне культа забаў і спажывальніцтва. Такія асноўныя паняцці, якія вызначаюць сапраўдны ўзровень маральнасці асобы, як Радзіма, Айчына, патрыятызм, чалавечнасць, надзея, вера, любоў мы не толькі зацягалі, як даўно нямытую кашулю, а наогул, не прызнаём іх, глумімся над імі. Паталогія чалавечага мыслення бывае настолькі агіднай, што растлумачыць гэту агіднасць лагічнымі катэгорыямі проста немагчыма. А знявага да продкаў ёсць першы прызнак амаральнасці. Можна прывесці тысячы прыкладаў жабрацкага пражывання дзяцей, а побач таўстасумаў, якія абкрадаюць і краіну, і людзей, але лічаць сябе “элітай” грамадства.

Мая тэма некалькі вузей агульнай амаральнасці, праяўлення яе ў культуры, бо асноўным расаднікам амаральнасці з’яўляецца культура. Гэта інкубатар амаральнасці. У адным артыкуле немагчыма даць глыбокі аналіз гэтага працэсу. Я спашлюся на зварот народнага артыста, акцёра Валянціна Гафта, прысвечаны ў вершаванай форме акцёру, паэту і барду Юрыю Візбару.

*Попса дробит шрапнелью наши души,*
*Её за это не привлечь к суду.*
*Часть поколенья выросла на чуши,*
*И новое рождается в бреду…*
*О “Солнышко лесное”, чудо-песня!*
*Как мы в неволе пели, чудаки!*
*Пришла свобода – стали интересней*
*Писклявые уроды-пошляки…*
*Слова – ничто, есть вопли вырожденья.*
*Тот знаменит, кто больше нездоров,*
*Кто выйдет петь без всякого стесненья,*
*Без совести, без страха, без штанов.*
*Где песня, чтобы спеть ее хотелось?*
*Слова где, чтоб во веки не забыть?*
*Ну, что горланишь про кусочек тела,*
*Который с кем-то очень хочет жить?*
*С тэлеэкрана, как из ресторана,*
*Для пущей важности прибавив хрипотцы,*
*Они пудами сыплют соль на раны,*
*Как на капусту или огурцы.*
*В халатике бесполая фигура*
*Запела, оголившись без причин...*
*Противно это... Спой нам, Юра,*
*О женской теплоте и мужестве мужчин.*

Асапраўды, як часта мы чуем добрыя песні аб жаночым цяпле і мужнасці мужчын. 23 ліпеня раніцай у суботу выпадкова ўключыў радыёпрыёмнік. Быццам электрычным токам пранізала цела. З прыёмніка ў цудоўным выкананні лілася песня “Чорны воран”. З нейкім асаблівым пачуццём успомніліся, быццам у кіно прайшлі жыццёвыя моманты таго дарагога 60-гадовай даўнасці жыццёвага шляху.

Народ – асноўная рухаючая сіла грамадства і гісторыі. Але народ без лепшых прадстаўнікоў – бязлікая маса. Аднак у залежнасці ад эпохі лепшыя прадстаўнікі маюць розную магчымасць для плённага развіцця свайго таленту, магчымасць уздзейнічаць на масы, уздзейнічаць на дух і душы народа, на фарміраванне тых асоб, якія былі б адданы душой і целам сваёй высакароднай справе.



**Апошнім часам казакі ў Беларусі праяўляюць усё большую актыўнасць.**
*Фота belsat.eu*

У 70-х гадах мінулага стагоддзя мне давялося быць двойчы слухачом універсітэта марксізма-ленінізма. Многія да гэтай навучальнай установы адносяцца скептычна. Я іншага меркавання. З удзячнасцю ўспамінаю выкладчыка, доктара гістарычных навук, прафесара Слемнева, які паведаміў нам, што яшчэ ў 50-х гадах адзін з кангрэсменаў ЗША звярнуўся ў кангрэс з прапановай не марнаваць напрасна грошы на маральнае разбэшчванне Івана Іванавіча, у якога склаліся свае моцныя маральныя перакананні. Лепш гэтыя сродкі ўкладваць у фарміраванне асобы падрастаючага Ванюшы, навязваючы яму ідэю, што самае лепшае ў жыцці чалавека – гэта ўменне абагачацца і весяліцца. Калі гэты Ванюша сам стане Іванам Іванавічам і прыйдзе да ўлады, ён з такімі маральнымі прынцыпамі краіну пакладзе на нашых ног без адзінага стрэлу. Збылося! Больш таго, прынцып “узбагачайся і весяліся” стаў галоўным у нашым грамадстве.

Не буду хадзіць за трыдзевяць зямель, а вазьму сваю родную Мёршчыну: 7 ліпеня Купала, 10 ліпеня – свята горада Мёры, “Славянскі базар” у Віцебску, шматдзеннае раздолле. Не паспелі адыйсці ад хмелю, як у Глыбокім “Вішнёвы кірмаш”, у Пераброддзі ашчэ адно гулянне. А з якім шыкам усё гэта праводзіцца, адкуль бяруцца грошы запрашаць сталічных артыстаў! Быццам здані з’явіліся беларускія казакі. Мілыя дамы! Вы што, горшыя за нашых захудалых мужыкоў? Ці ж вам не пад сілу арганізаваць таварыства “Беларускіх амазонак”? Мужыкі: “Любо, братцы, любо!” А вы штосьці сваё. На двары гарачая пара: малака не можам надаіць нават па 12 літраў на карову, ялавічына ў жуткай страце, нарыхтоўка кармоў, уборка зерня на носе, а райгазета ў экстазе ад праводзімых танцулек, свістулек, іншых забаў. Бальніца на 100 ложкамесцаў – доўгабуд трэцяга дзясятка гадоў.

А вось доктар тэхнічных навук, член-карэспандэнт Міжнароднай славянскай акадэміі Валянцін Кашынаў сцвярджае, што музыка, у залежнасці ад яе выканання, з’яўляецца метадам кіравання людзьмі. І не толькі метадам кіравання, а ўздзеяннем на наша здароўе. Музыка славянскіх народаў, г.зн. наша музыка, якая напеўная і каларытная, практычна не мае ўзрыўных гукаў, садзейнічае пазнанню навакольнага свету, пад яе лёгка думаць, яна падымае настрой, прызывае да руху. Поп-музыка шкодзіць вучыцца і тварыць. Таму народы, музыка якіх аснавана на барабанных рытмах, адстаюць у развіцці. Чалавек, які прывык да поп-музыкі, пачынае адчуваць наркатычнае галаданне – абстыненцыю. Мэта галоўных гаспадароў поп-музыкі – абалваньванне нашай моладзі, навязванне пад уздзеяннем музычных наркотыкаў чужых нам каштоўнасцяў, яны адвучваюць нас асэнсавана дзейнічаць.



**Шаркоўшчынскі касцёл, 1925 год**

# У Шаркоўшчыне адзначылі дваццацігадовы юбілей касцёла

**У аўторак, 13 верасня, падчас тытульнага фэсту Узвышэння Святога Крыжа парафія ў Шаркоўшчыне адзначыла дваццацігадовы юбілей асвячэння касцёла.**

**Зміцер Лупач**

Нягледзячы на працоўны дзень, у святыні сабралася шмат вернікаў-святароў. Ганаровым госцем свята быў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.

Стары драўляны касцёл быў разбураны камуністычнымі ўладамі ў 1963 годзе. Новы касцёл у Шаркоўшчыне пачаў будавацца напачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, пачынаў адраджэнне парафіі і храма ксёндз Юозас Булька. Цяперашні пробашч парафіі ксёндз Кшыштаф Сілкоўскі працуе ў Шаркоўшчыне з 1992 года. Ён прыняў будаўніцтва на стадыі падмуркаў, дабудаваў храм, у 1996 годзе яго асвяціў кардынал Казімір Свёнтак.

Адметнасцю святкавання стала асвячэнне дванаццатай стацыі Крыжовага шляху, якая захавалася са старога касцёла. Па ёй можна судзіць аб памерах старога храма, калі адна стацыя важыць каля 350 кг., а іх было чатырнаццаць.

Людзі доўгі час хавалі яе ад уладаў, а напачатку 90-х гадоў перадалі яе ў германавіцкі касцёл. Зараз яна вярнулася ў Шаркоўшчыну. Рэстаўраваў яе мастак Віктар Крук, а асвяціў біскуп Алег Буткевіч, які назваў яе мастом, што злучае мінулае і сучаснасць.



# Лес сякуць, грошы ляцяць, ды толькі ў саміх незаконных лесарубаў



**З надыходам восені штогод востра паўстае пытанне высечкі драўнінна-хмызняковай раслінnасці, нарыхтоўкі дроў насельніцтвам, асабліва на землях сельскагаспадарчага прызначэння, а таксама ў дзяржаўным лясным фондзе.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Штотыдзень супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету затрымліваюць грамадзян за самавольную незаконную высечку дрэў. Як правіла, затрыманыя спасылаюцца на вусныя дазволы адказных службовых асобаў альбо на тое, што раней (пры СССР) ніякіх дакументаў не трэба было, бяры, сячы, знішчай усё вакол сябе. Але мы жывем у іншай дзяржаве, дзе ёсць закон, які патрабуе выканання і кантролю, дзе любыя дзеянні грамадзян абмежаваныя прававым полем, усе дзеянні выразна распісаны.

Перад надыходам ацяпляльнага сезона рэзка актывізуюцца "чорныя лесарубы", якія не хочуць абцяжарваць сябе марнаваннем часу на атрыманне дазваляльных дакументаў, такія грамадзяне незаконна высякаюць лес, нарыхтоўваюць дровы, якія затым рэалізуюць за прыстойныя грошы.

14 верасня гэтага года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі затрыманыя жыхары г. Глыбокае, якія без дазваляльных дакументаў незаконна высеклі больш за 5м³ драўніны з мэтай далейшай рэалізацыі насельніцтву. Сума нанесенай шкоды склала 510 рублёў, а таксама ім трэба заплаціць штраф у памеры 210 рублёў. Лес сякуць, грошы ляцяць, ды толькі ў саміх незаконных лесарубаў.




Характэрна, што адзін з затрыманых лесарубаў у жніўні гэтага года ўжо затрымліваўся інспектарамі за аналагічнае парушэнне, але, мабыць, урок не пайшоў на карысць.

Толькі за жнівень–верасень у парушальнікаў правілаў лесакарыстання інспектарамі канфіскавана больш за 30м³ незаконна нарыхтаванай драўніны.

Хацелася б звярнуцца да жыхароў раёна з просьбай быць асцярожнымі ў лесе. За апошнія некалькі гадоў на тэрыторыі раёна з'явілася шмат дзікіх звяроў, якіх раней у нас не было, а менавіта, мядзведзяў, рысі. Толькі ў верасні-месяцы ад жыхароў в. Пліса і размешчанага на беразе возера Вялікая Пліса санаторыя паступалі званкі ў інспекцыю аб тым, што грамадзяне бачылі мядзведзя.



Усё часцей у нашых лясах можна сустрэць мядзведзя.

Мядзведзь вельмі моцны і небяспечны звер, але на людзей нападае толькі ў крайніх выпадках, таму не трэба іх баяцца, але і правакаваць на атаку не трэба, асабліва, калі гэта мядзведзіца з медзведзянятамі. У чаканні зімы мядзведзі актыўна кормяцца, набіраюць вагу і тлушч, праходзячы вялікія тэрыторыі, каб потым залегчы ў спячку, а таму вялікая верагоднасць сустрэць мядзведзя на кукурузным полі альбо сметніку. Паляванне на мядзведзя ў нас забаронена, бо ён занесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь.

***

**Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце патэлефанаваць па тэлефонах: 2-86-70 (кругласутачна), МТС: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**

# Не адкладвайце выплату падаткаў у бюджэт на апошні тэрмін

## Аб выплаце падатку на нерухомасць, зямельнага падатку і арэнднай платы за зямельныя ўчасткі

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах па Глыбоцкаму раёну нагадвае, што неабходна заплаціць падатак на нерухомасць, зямельны падатак і арэндную плату за зямельныя ўчасткі за 2016 год.**

Грамадзяне, якія не вызваленыя ў адпаведнасці з заканадаўствам ад выплаты гэтых падаткаў і якія маюць ва ўласнасці, пажыццёвым спадчынным валоданні або часовым карыстанні зямельныя ўчасткі, а таксама жылыя дамы, садовыя домікі, дачы, гаражы, гаспадарчыя пабудовы і іншыя будынкі, у тым ліку не завершаныя будаўніцтвам абавязаны выплаціць падаткі.

Падлік зямельнага падатку ў 2016 годзе зроблены ў адпаведнасці з кадастравай ацэнкай зямельных участкаў.

Падатак на нерухомасць вылічаны па стаўцы 0,1 працэнта ад кошту будынкаў і збудаванняў, якія належаць фізічным асобам. Пастановай Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь ад 25 студзеня 2016 года №2 усталяваныя каэфіцыенты пераацэнкі будынкаў і збудаванняў, якія належаць фізічным асобам, на 1 студзеня 2016 года ў наступных памерах: жыллёвы фонд – 1,0374, нежылыя будынкі – 1,0333.

Паведамленні на выплату фізічнымі асобамі зямельнага падатку і падатку на нерухомасць уручаны паштай заказнымі лістамі з паведамленнем.

Просьба не адкладаць выплату падаткаў у бюджэт на апошні тэрмін, а зрабіць выплату ўжо сёння.

У выпадку, калі грамадзянін – плацельшчык зямельнага падатку і падатку на нерухомасць па якіх-небудзь прычынах не атрымаў паведамленне на ўплату належных сум падаткаў, рэкамендуем звярнуцца ў падатковы орган па месцы знаходжання адпаведнага аб'екта (нерухомасці, зямельнага ўчастка) з мэтай удакладнення сум падаткаў, належных да выплаты, каб своечасова разлічыцца з бюджэтам і не патрапіць у спіс даўжнікоў.

Зямельны падатак і падатак на нерухомасць з'яўляюцца адным з даходных крыніц мясцовых бюджэтаў, за кошт якога ажыццяўляецца фінансаванне сацыяльнай сферы (ахова здароўя, адукацыя і інш.). Маёмасныя падаткі налічаны ў суме 312880,7 дэнамінаваных рублёў, што ў планавых даходах раённага бюджэту складае 1,33 працэнта.

Выплата плацяжоў ажыццяўляецца з выкарыстаннем сістэмы дыстанцыйнага банкаўскага абслугоўвання (інтэрнэт-банкінг, інфакіёск, банкамат), а таксама ва ўстановах банкаў, аддзяленнях сувязі.

**Па пытаннях можна звяртацца ў інспекцыю Міністэрства па падатках і зборах па Глыбоцкім раёне: г. Глыбокае, вул. Чырвонаармейская, д.8, каб. № 4,5,6,7 або па тэлефонах 2-29-48, 2-26-76, 2-13-42.**

*Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Глыбоцкай раёну*



## МНС інфармуе

**на 20.09.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 496;
Гібель людзей – 49, з іх 1 дзіця;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 17;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

